# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 19 ліпеня 1994 года | № 75 (10775) | Цана 200 руб.




## ДОСЛЕДНАЯ СТАНЦЫЯ — ФЕРМЕРАМ

***— Мы ў даўгу перад вамі, — заявіў удзельнікам семінара-вучобы кіраўнікоў сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак старшыня аблсельгасхарча А.М.Жук. — У вобласці ёсць столькі многа цікавага і патрэбнага вам, аб чым вы і не ведаеце. І сённяшні семінар павінен некалькі ўхіліць ваш прабел у ведах. На ім вы запазычыце шмат карыснага для сябе.***

Сапраўды, фермерам было што паглядзець і паслухаць. На міні-выстаўцы, арганізаванай на базе эксперыментальнай гаспадаркі "Натальеўск" Чэрвеньскага раёна, яны змаглі азнаёміцца са сродкамі малой механізацыі, новымі прэпаратамі аховы раслін, апошнімі распрацоўкамі ў ветэрынарнай справе. Цікавасць выклікалі стэнды з праектамі забудовы фермерскіх гаспадарак. Была шырока прадстаўлена даведачна-метадычная і навуковая літаратура.

Не меншую цікавасць выклікалі і расказы навуковых супрацоўнікаў абласной сельскагаспадарчай доследнай станцыі аб новых раяніраваных і перспектыўных гатунках збожжавых і зернебабовых культур, бульбы, лугапашавых траў. Наколькі справядлівымі былі характарыстыкі вучоных, фермеры змаглі пераканацца самі, пабываўшы на доследных участках.

Фермераў папрасілі часцей бываць на доследнай станцыі. Вучоныя заўсёды рады даць ім кансультацыі, практычныя парады, дапамогуць падабраць насенне. А гэта ў канчатковым выніку станоўча паўплывае на ўраджай.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

## ФАБРЫКА ВІТАМІНАЎ

*Пятнаццаць гадоў у калгасе "Перамога" Старадарожскага раёна працуе цэх па вытворчасці вітамінных кармоў. Наладзіўшы работу ў дзве змены, тут штодзённа выпускаюць каля шасці тон "вітамінкі".*

*НА ЗДЫМКАХ: гранулы травяной мукі; машыніст АВМ Сяргей Лапанік; дзейнічае "зялёны канвеер".*

*Фота Анатоля БАСАВА.*





## Абаранілі дысертацыі

***У Нацыянальным інстытуце адукацыі рэспублікі адбылася абарона дысертацый на званне кандыдата педагагічных навук. З чатырох саіскальнікаў два прадстаўнікі Міншчыны.***

Гэта дырэктар абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў А.І.Гіро і настаўнік матэматыкі і інфарматыкі сярэдняй школы №3 Вілейкі К.У.Лаўрыновіч.

Аб чым іх работы? Абедзве прысвечаны тэорыі і гісторыі педагогікі. "Матывацыя і стымуляванне самаадукацыі настаўнікаў у сістэме павышэння кваліфікацыі" — такая тэма дысертацыі А.І. Гіро. У ёй аўтар тэарэтычна абгрунтаваў новую функцыянальную структуру інстытута ўдасканалення настаўнікаў, якая прадугледжвае паступовы пераход ад арганізацыйна-метадычных форм работы да навукова-метадычных і навукова-даследчых, ахарактарызаваў узаемасувязь матываў і стымулаў на розных узроўнях самаадукацыі педагогаў. Дадам, што ў інстытуце, які ўзначальвае А.І.Гіро, у практыку паспяхова ўкаранёны даследчы падыход да арганізацыі сістэмы павышэння кваліфікацыі на абласным узроўні. Тут распрацаваны новая сістэма атэстацыі педагагічных работнікаў, а таксама сістэма індывідуальнай работы з кіраўнікамі школ і педагогамі-даследчыкамі.

Раней А.І.Гіро працаваў настаўнікам, дырэктарам школы, загадчыкам аддзела адукацыі Крупскага райвыканкома.

У даследаванні К.У.Лаўрыновіча распрацавана канцэпцыя гуманізацыі навучання дысцыплінам фізіка-матэматычнага цыкла /базавы ўзровень/ як цэласнага педагагічнага працэсу, вызначана сукупнасць метадаў і прыёмаў выкарыстання інтэграваных курсаў у агульнай сістэме адукацыі, выяўлены псіхолага-педагагічныя ўмовы гуманізацыі сучаснай фізіка-матэматычнай адукацыі.

— Канстанцін Уладзіміравіч сканструяваў модуль інтэграваных урокаў, які паспяхова выкарыстоўвае на практыцы. Ім падрыхтаваны навучальны дапаможнік, распрацавана сістэма пазакласнай і пазашкольнай работы па матэматыцы і інфарматыцы, — зазначыў намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі аблвыканкома Георгій Іванавіч Нікановіч.

Віншуем вас, педагогі-даследчыкі!

*Уладзімір ВЕРАСКОЎ.*

■ Сацыяльны ракурс

## НЕ КОЖНАМУ ПА КІШЭНІ

***Як вядома, да 1990 года ўзвядзенне жылля ў рэспубліцы ажыццяўлялася па комплекснай праграме жыллёвага будаўніцтва да 2000 года. Работы на 73 працэнты фінансаваліся дзяржавай. Такім чынам, існавала пэўная гарантыя, што сем"і, якія маюць патрэбу ў кватэры, дачакаюцца сваёй чаргі. Жадаючых будавацца за кошт уласных сродкаў было не вельмі многа.***

***У 1991 годзе з"яўляецца новая канцэпцыя, якая карэнным чынам змяніла суадносіны паміж прыватным і дзяржаўным будаўніцтвам. Так, летась аб"ём дзяржаўных капітальных укладанняў на ўзвядзенне жылля зменшыўся да 51 працэнта, а доля індывідуальнай забудовы ўзрасла да 20 працэнтаў.***

***За апошнія гады ўдвая паскорыліся тэмпы работ жыллёва-будаўнічай кааперацыі. Архітэктуру прыгарада ў адзін момант упрыгожылі шматлікія катэджы, якія не перастаюць здзіўляць шырокім фінансавым размахам яго гаспадароў. Аднак такія палацы не кожнаму па кішэні. Ці можна яшчэ спадзявацца на магчымасць атрымаць калі-небудзь дзяржаўнае жыллё? Або ісці ў банк па крэдыты і самастойна распачынаць работы?***

— У будаўнічым комплексе рэспублікі склалася даволі няпростае становішча,— каменціруе сітуацыю намеснік старшыні Дзяржбуда **Леанід ПЛЯЧКО.** — Беларусь мае ўдвая менш жылой плошчы на аднаго чалавека, чым многія ўсходнееўрапейскія краіны, і ўтрая адстае ад развітых капіталістычных краін. Сярод дзяржаў Садружнасці наша рэспубліка таксама знаходзіцца не на першым месцы па забяспечанасці жыллём. Рэзка скараціліся дзяржаўныя інвестыцыі, фінансаванне ідзе толькі за кошт мясцовых бюджэтаў. Адсюль і такія сціплыя магчымасці. Камерцыйныя арганізацыі не спяшаюцца ўкладваць грошы на ўзвядзенне жылля. Іх пазіцыя зразумелая. Рубель патрабуе хуткага абароту, а будаўніцтва плануецца на гады. Салідным капіталам валодаюць банкі, але ім выгадна прадастаўляць крэдыты пад высокія працэнты гандлёва-закупачным прадпрыемствам. Захаваць жа стабільнасць будаўнічага комплексу магчыма пры змяненні інвестыцыйнай палітыкі ў бок павелічэння недзяржаўных крыніц фінансавання.

***— Некаторыя будаўнічыя арганізацыі звязваюць свой дабрабыт з прыватнай формай гаспадарання. Маўляў, выкупімся, тады і справы наладзяцца. Увогуле, як ідзе працэс раздзяржаўлення ў будаўнічым комплексе?***

— Марудна. Толькі трэцяя частка усіх арганізацый рэспублікі набылі статус арэндных, акцыянерных. Лічу галоўным вынік працы, а не яе форму. Тым больш што многія ПМК не ў стане выкупіць свае фонды, якія да таго ж вельмі зношаныя /амаль напалавіну ці больш/. Наўрад ці знойдзецца прадпрымальнік, які рызыкне абнавіць старую базу. Як адзін з варыянтаў выжывання ПМК — будаўніцтва жылля на продаж. Можна, канечне, вітаць гэтую тэндэнцыю. Аднак тут паўстае пытанне сацыяльнай справядлівасці. Той, хто гадамі чакае дзяржаўнага жылля, не купіць сабе кватэру па камерцыйнай цане. Так немагчыма ліквідаваць сацыяльную напружанасць, зняць вастрыню гэтай праблемы.

***— Як вы зазначылі, аб"ёмы будаўніцтва зменшыліся, колькасць жа рабочых месц пры гэтым не скарацілася, а заработная плата будаўнікоў узрасла. Ці не прамая тут дарога да банкруцтва?***

— Арганізацыі разлічваюць на дзяржаўную дапамогу, якая выцягне іх з даўгавой ямы. Аднак рыначныя адносіны не дазволяць рабіць гэта. Трэба арыентавацца на ўласныя сілы і не займацца самапаяданнем.

Падрываюць фінансавае становішча будаўнічых арганізацый незавершаныя аб"екты, колькасць якіх у апошнія гады значна ўзрасла. У вобласці з пачатку года на 5.443 жылых дамах прыпынены работы. Асобныя з іх узводзяцца з адступленнем ад праекта. Так, летась у Маладзечне здадзены ў эксплуатацыю 18-кватэрны дом без гарачай вады, каналізацыі і газу. Затое надбудаваны трэці паверх, які не быў прадугледжаны праектам і стварае аварыйнасць. Гэтая "эканомія" пагражае небяспекай для жыхароў дома.

Будаўнічы комплекс асабліва востра рэагуе на эканамічнае становішча дзяржавы. Таму адпаведны вывад зрабіць нескладана.

*Гутарыла Наталля ШМІДТ.*

## БАЛЬ МЕДАЛІСТАЎ

Другі год ён праводзіцца ў Маладзечне па ініцыятыве мясцовага гарвыканкома. На гэты раз 83 медалісты — выпускнікі сярэдніх школ горада сабраліся ў рэстаране «Алеся», былі запрошаны таксама іх класныя кіраўнікі і дырэктары навучальных устаноў. Перад юнымі інтэлектуаламі выступілі мінскія эстрадныя артысты, было выказана шмат цёплых пажаданняў і веры, што сённяшнія выпускнікі не ўроняць гонару роднага горада, а панясуць яго дастойна па жыцці.

Спонсарам балю выступіла вядомая фірма «Дайнова».

## СЕЗОН ЗАВЯРШЫЎСЯ "ЧОРНАЙ НЯВЕСТАЙ"

На апошні прэм"ерны спектакль гэтага сезону запрасіў гараджан Мінскі абласны драматычны тэатр, размешчаны ў горадзе Маладзечне. Поўным аншлагам, дружнымі апладысментамі сустрэлі гледачы меладраму аб рамантычным каханні «Чорная нявеста» па аднайменнай п"есе Ж.Ануя.

Пастаноўку ажыццявіў заслужаны работнік культуры Беларусі рэжысёр Мікалай Мацкевіч. У галоўных ролях заняты артысты Алена Доніна, Таццяна Кавалеўская, Яўген Іўковіч.

Тэатр актыўна гастралюе не толькі ў родным горадзе, але і на Вілейшчыне, Валожыншчыне. Запланаваны гастрольныя паездкі ў суседнія Смаргонскі і Мядзельскі раёны. Юныя гледачы цёпла прымаюць спектакль-казку «Залатое кураня», дарослая публіка — музычны спектакль «Скарб Бразіліі».

Пры спрыяльных абставінах у гастрольную афішу тэатра будзе ўключаны спектакль для дзяцей «Дзве Бабы Ягі».

*Марыя КУЗАЎКІНА.*

## І Ў ПРАВІНЦЫІ РАСТУЦЬ ЛАЎРЭАТЫ

Прадстаўнікі самых прэстыжных школ Масквы, Санкт-Пецярбурга, Рыгі і іншых прынялі ўдзел у першым міжнародным конкурсе імя Марыны Цвятаевай. А пераможцам і ўладальнікам галоўнага прыза — фартэпіяна «Беларусь» — стаў 11-гадовы маладзечанец Павел Ялецкі.

Павел займаецца ў сектары педагагічнай практыкі пры Маладзечанскім музычным вучылішчы. Вучыць яго бацька, выкладчык вучылішча Юрый Паўлавіч Ялецкі, выпускнік Маскоўскай кансерваторыі. Да першага міжнароднага была перамога на конкурсе маладых выканаўцаў імя Агінскага ў Смаргоні і міжрэспубліканскім конкурсе піяністаў у Смаленску.

У Паўла — не толькі Богам дадзены талент, але і ўражальная працавітасць, упартасць. Спецыялісты прадказваюць хлопчыку вялікую будучыню.

Крымінал

## СА СВЯТА НЕ ВЯРНУЛІСЯ

Трагічным эпізодам завяршылася святкаванне гадавіны вызвалення Беларусі ў Вілейцы. Па традыцыі яно праходзіла на маляўнічым беразе ракі Вілія, непадалёку ад горада. Было і ўшанаванне ветэранаў, і вялікі святочны канцэрт. Вёўся ажыўлены гандаль з латкоў і павільёнаў. Свяціла сонца, вабіла рака. Спіртнога было нямнога, але большасць прыйшлі са сваім. Не дачакаўшыся канца ўрачыстасцей, пазаймалі месцы ў цяньку пад кустамі...

Што паслужыла канкрэтнай прычынай гібелі мужа і жонкі — невядома. Вядома тое, што абое яны патанулі, ні то ратуючы адзін аднаго, ні то захапіўшыся купаннем.

Так ці інакш сіротамі засталіся двое дзяцей-падлеткаў,

*(Наш кар.)*

## НЯЎДАЛЫ "АЛЬПІНІСТ"

Наўмысны выпадак ускалыхнуў Маладзечна. У горадзе па вуліцы Чапаева з балкона дома зваліўся 32-гадовы мужчына, а па дарозе ў бальніцу памёр. Здарылася гэта пасля таго, як добра „паддаўшы"разам з сябрамі, ён стаў спускацца з балкона чацвёртага паверха на трэці і ў гэты час сарваўся.

Трэба адзначыць, што раней гэта хобі «сталаму альпіністу» ўдавалася лепей. Напомню хаця б такі выпадак. Год таму, каб больш блізка заваяваць сэрца сваёй каханай, ён прама з даха яе дома адправіўся ў кватэру на 9 паверх. Але, пераблытаўшы жытло, угадзіў у кватэру адзінокай жанчыны. Тады ўсё закончылася прыездам міліцыі, а цяпер...

## ПАДРЭЗАНЫ АЎТАРЫТЭТ

«Узброеная» вартаўніком птушкафабрыка Смалявіч не турбавалася за сваю маёмасць. Нядаўна гэты міф быў парушаны. Пры жывым вартаўніку злодзеі спілілі замок на варотах майстэрні і ўкралі 14 электрарухавікоў і 15 метраў меднай жылкі кабелю. Толькі ахоўнік не прызнае сваёй адсутнасці. І цяпер стаіць на варце.

## РАСПЛАТА

У прыёмны пакой слуцкай бальніцы з сечанымі ранамі галавы, спіны і ягадзіц заявіўся шафёр гарадскога аўтамабільнага парка. З непрыемнасцю, але ўсёж-такі паведаміў хворы, што набыў такія «цацкі» ў час сваркі з суседам у вёсцы Лучнікі, дзе і пражываў.

А другі выпадак адбыўся ў вёсцы Дубравы-2, што ў Маладзечанскім раёне, і мае смяротныя вынікі. На другі дзень пасля пабояў сканала жонка аднаго з мясцовых жыхароў. Сам жа гаспадар пасля разборак на глебе рэўнасці хацеў знікнуць, але не тут тое было — злоўлены міліцыяй.

Вось такія жахлівыя гісторыі адбываюцца на Міншчыне. І кожнае трэцяе злачынства — сямейна-бытавое.

*Віктар БЫКАЎ, Супрацоўнік прэс–групы УУС Мінаблвыканкома.*

## БЫК, ЯКІ ГУЛЯЎ САМ ПА САБЕ

У адной гаспадарцы здарыўся такі выпадак: з мясцовай фермы нечакана збег бык. Адчуўшы сябе раптам свабодным, жывёліна скіравала на прысядзібныя ўчасткі, што знаходзіліся непадалёку. Людзі заўважылі набліжэнне няпрошанага госця і зразумелі ягоны намер. Хапілі, хто кол, хто камень. Сцяною сталі на мяжы сваіх надзелаў. З паўгадзіны цягнулася гэтая «карыда»: надта ўпартым аказаўся калгасны бугай. Але ўсё ж не вытрымаў упартага адпору і павярнуў назад. Крыху аддыхаўшыся, хтосьці з мужчын пажартаваў:

— Во парадкі. Загрузіў на машыну. І вязі — прадавай... Сама, можна сказаць, капейка ў рукі ішла. Толькі аглушыць папярэдне трэба было б. Занадта дужы.

Жарт жартам, а фактаў, калі крадуць, як грамадскую, так і асабістую жывёлу ў вобласці, нямала. Зусім нядаўна супрацоўнікамі Барысаўскага РАУС былі затрыманы жыхары вёскі Навасёлкі Н. і К. З мясцовай свінафермы яны ўкралі парася. А пасвежаваць яго, як бачым, не паспелі. Цікава, што памянёныя свінакрады працавалі ў мясцовай гаспадарцы вартаўнікамі.

Аналагічная гісторыя здарылася і ў калгасе «Бальшавік» Бярэзінскага раёна. Праўда, тут аб"ектам нападу аказаўся цялятнік. Невядомы (а можа, невядомыя) прабраўся ноччу ў памяшканне і вынес адтуль трох цялят.

Што з імі здарылася, ніхто не ведае. Як не ведае пенсіянерка Зубчынская з Барысаўскага раёна, дзе падзелася яе рагуля. Вечарам у хлеў загнала. А раніцай адкрыла дзверы — пуста. Бяда, адным словам. Прапала карміцелька.

Зразумела, што не нейкія там іншапланетныя візіцёры крадуць рагуль, свіней, цялят. Але знайсці злачынцу бывае вельмі цяжка. Дый, здараецца, што не толькі цёмнай ноччу прападае жывёла. У жыхара Маладзечна Бяляева каля дзесяці гадзін раніцы з пашы знікла карова. Не скрозь зямлю ж яна праваліласяǃ

Бядуюць людзі. Бо купіць сёння парася, не гаворачы ўжо пра карову, немалыя грошы трэба. Па праўдзе кажучы, дзенідзе і належнага нагляду за жывёлай няма. Але, пагадзіцеся, і злодзей стаў сёння нахабны, бо пакаранне не вельмі баіцца.

...А што здарылася з тым калгасным быком, які гуляў сам па сабе? Пасля атрыманага адпору, ён не пайшоў назад на ферму. А адганяючы мух і сляпнёў, хутка пашыбаваў у супрацьлеглы ад яе бок. Можа, сапраўды, дзесьці за пагорачкам яго, як казалі тыя мужчыны, аглушылі. Усцягнулі на машыну і... Не буду, аднак, сцвярджаць наконт гэтага катэгарычна. Хаця у наш час здараецца ўсякае.

*Мікалай ЖУЧКО.*

# ПОЖАРНАЯ ОПАСНОСТЬ!

***В связи с установившейся теплой и сухой погодой участились случаи возникновения пожаров в лесах и на торфяниках. Как известно, они возникают при несоблюдении мер пожарной безопасности.***

В настоящее время пожарная обстановка в области в целом спокойная. Однако, в Узденском районе отмечено два случая пожара.

Так,10 июля в д.Теплень сгорело сенохранилище, в котором находилось 100 тонн сена. 12 июля в д.Суковцы на торфоразработке сельхозхимии произошло возгорание торфяного бурта. В результате пассивных мер по ликвидации пожара к середине дня загорелись еще два рядом лежащие бурта.

Сейчас наступил сезон сбора ягод в лесах и болотах, который будет продолжаться до глубокой осени, и поток людей в эти места увеличивается.

Скоро начнется уборка урожая на полях, где будет задействовано большое количество людей и различной техники. Всем нам важно знать, а главное — соблюдать правила пожарной безопасности на местности, где из-за малейшей оплошности может возникнуть большой пожар.

Надо помнить, что окружающая местность при высокой температуре воздуха представляет собой легко воспламеняющееся вещество. Малейшая искра может вызвать мгновенное воспламенение сухого травяного покрова и стремительное распространение пожара лесного массива, хлебного поля, или торфяника. В связи с этим нельзя выбрасывать окурки на ходу автомобиля, которые могут воспламенить сухую придорожную траву и перенести огонь на указанные массивы, не курить и не разводить костры, даже на полянах, ибо возникающие вихри могут разнести источник огня на большую площадь.

Опасным источником пожара является любая машина /автомобиль, комбайн, трактор и т.д./ с неотрегулированной системой питания, в результате чего происходит искровыделение с выхлопными газами.

При возникновении пожара примите меры к его ликвидации и сообщите в ближайшие службы охраны. При тушении лесных /полевых/ пожаров забрасывайте огонь землей, сбивайте пламя ветками, мешковиной и другими подходящими для этой цели предметами.

При этом надо соблюдать меры личной безопасности. Так, при пожаре в лесу образуется сильное задымление и избыток углекислого газа может привести к потере ориентировки и вызвать удушье. Выходить из зоны пожара нужно в наветренную сторону, используя открытые пространства /поляны, просеки, дороги, реки и т.д./ а также участки лиственного леса.

Помните, хлеб и лес, все, что создано народом — наше богатство, которое надо всемерно беречь.

*И. ГРИЩЕНКО, помощник начальника штаба гражданской обороны Минской области по воспитательной работе и информации.*

■ Кіраўнік і калектыў

# СЫН ГЕРОЯ

## Штрыхі да партрэта старшыні калгаса «Кастрычнік» Клецкага раёна Л.У.Мацейкі

*Нарадзіўся і вырас ён у маленькай вёсачцы з дзіўнаю назваю Цапэрка. З дзяцінства ведае, чым пахне хлеб у полі, якая нялёгкая сялянская праца. Юнаком браў у рукі касу, ішоў разам з сябрамі на луг. Не раз спрачаліся ўзмакрэлыя хлопцы, чый пракос шырэйшы, чыя каса гладчэй "голіць"... Акучваў канём бульбу. Вазіў у гумно снапы. Бацька працаваў начальнікам вытворчага ўчастка ў племзаводзе "Чырвоная зорка". Чалавек быў гаспадарлівы, знакаміты. Гэта яму, аднаму з першых на Клеччыне, у 50-я гады было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы.*

Леанід марыў пра ваеннае вучылішча, але на медкамісіі "зрэзалі". Пасля заканчэння Гродзенскага сельгасінстытута працаваў аграномам у калгасе "Авангард", узначальваў аграмічную службу ўпраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома. І вось ужо пятнаццаць гадоў "цягне" нялёгкі старшынёўскі воз.

Калгас "Кастрычнік" і раней быў не з тых, хто ляжаў на лапатках. Землі тут урадлівыя. Папярэднікі Мацейкі нямала зрабілі, каб паўсюдна стаялі капітальныя будынкі, каб развіваўся сацкультбыт. І ўсё ж, як кажуць, новы час — новыя праблемы.

...Хораша адцвілі сёлета сады ў Шчэпічах — цэнтральнай вёсцы калгаса. Ля новых дамоў маладыя яблынькі, вішні, слівы. Чакаецца добры ўраджай. Леанід Уладзіміравіч расказвае:

— Пачынаў я сваю "кар"еру" з будаўніцтва жылля. Бо побач — раённы цэнтр. Не даць чалавеку кватэру — уцячэ на які-небудзь завод. Ухіл узялі на аднакватэрныя дамы. Побач — хлеў, гараж, агарод. Няхай людзі гадуюць жывёлу, вырошчваюць садавіну, агародніну. Больш як сорак дамоў узвялі. Моладзь стала заставацца дома, пайшлі вяселле за вяселлем. Цяпер усе ведаюць цану бытавых зручнасцей. Мы вось за газіфікацыю ўзяліся. Хутка цэнтральную кацельню падключым, потым блакітнае паліва і ў дамы пойдзе. І не толькі ў Шчэпічах, але і ў Яжавічах, Лукаўцы (усяго ахопім больш як 500 кватэр). Як будавацца сёння, калі ўсё дарагое, калі за цагліну выкладваць трэба паўтысячы рублёў? Мы пайшлі па такім шляху: даём людзям беспрацэнтны крэдыт — 10-15 мільёнаў рублёў на 20 гадоў. Асабліва маладым сем"ям, маладажонам, якім трэба віць свае гнёзды.

Леанід Уладзіміравіч абавязкова прысутнічае на брыгадных сходах. Тут заўсёды пачуеш нешта важнае для сябе. Ёсць магчымасць распытаць, як жывуць людзі, ці зводзяць канцы з канцамі. Нехта нясе заяву, каб прадалі парасят, нехта просіць цялушку (многія хочуць гадаваць на падворку не толькі вепрукоў, але і падласак). Калгас працягвае руку дапамогі. Бо заробкі, асабліва ў паляводаў, невысокія. Выдае па заніжанай цане грэцкія крупы, цукар, збожжа...

Старшыня лічыць, што як бы ні было цяжка, але растрасаць калектыўнае дабро не трэба. Куды прыхіліцца селяніну? Трэба жыць, трэба працаваць. Тут не знізілі пагалоўе кароў. Наадварот, набылі ў племзаводзе "Чырвоная зорка" пародзістых цялушак, папоўнілі дойны статак. Невыпадкова паказчыкі па валавой вытворчасці малака і рэалізацыі яго дзяржаве ідуць угору.

Праблемы наскокваюць адна на адну. У першыя гады свайго кіраўніцтва Леаніду Уладзіміравічу давялося "шліфаваць" тэхналогію вытворчасці свінагадоўчага комплексу на 24 тысячы галоў (аб"ект быў у стадыі завяршэння, але няўвязкі з мантажом абсталявання рэзалі без нажа). Колькі начэй недаспаў тады! "Выбіваў" трубы, вентылятары, транспарцёры...

У васьмідзесятыя гады комплекс ужо добра-такі стаў на ногі. Раённы план па здачы свініны ў асноўным цягнуў калгас "Кастрычнік". Потым — знакамітая гарбачоўская перабудова.Ірваліся гаспадарчыя сувязі, пакацілася ўніз цана рубля. І цяпер на комплексе нямала праблем. Камбікорм не збалансаваны па пажыўных рэчывах (раней розныя мікрадабаўкі і вітаміны пастаўлялі з Расіі, Польшчы), не вырашана да канца сістэма адводу гноевай жыжкі (абсталяванне для гэтых мэт каштуе ўжо не мільёны, а мільярды рублёў). І ўсё ж сякія-такія зрухі да лепшага ёсць. Пагалоўе свіней у параўнанні з мінулым годам вырасла амаль на 700 галоў. Павысіліся сярэднясутачныя прывагі жывёлы на адкорме.

Каб мець у касе грошы (а іх трэба шмат: на набыццё паліва, запчастак, мінеральных угнаенняў і інш.), Мацейка прапанаваў стварыць цэх па вырабу вяндліны, каўбас і іншых мясных прадуктаў. Абсталяванне купілі ў Баранавічах і Любані. Да 150 кілаграмаў прадукцыі за змену выпускае цэх. У асартыменце не толькі каўбасы, вяндліна, але і супавыя наборы, рулеты, тлушч, балык... Прытым цана некалькі ніжэйшая, чым у магазінах райспажывсаюза. Скажам, кілаграм вэнджанай каўбасы каштуе 20 тысяч рублёў, а "там" — 26—28.

Няма таго дня, каб для Леаніда Уладзіміравіча ён прайшоў спакойна. Трэба звязацца з Баранавіцкай абутковай фабрыкай (абяцаюць па бартэру даць некалькі дзесяткаў пар чаравікаў, мужчынскіх і жаночых). А хіба не паедзеш у Мінск на маторны ці веласіпедны заводы? Там даўнія знаёмствы. Абяцаюць дапамагчы сваёй прадукцыяй у абмен на мясныя вырабы. Што ж, такі час і, як сказаў паэт, "такая эпоха".

Не, я не зайздрошчу, як іншыя, старшыням калгасаў. Хлеб іх нялёгкі. Паспрабуй весці "карабель" у вірлівым рынычным моры, калі цябе падпільноўваюць шматлікія падводныя рыфы. У Шчэпічах вераць свайму старшыні, вераць у лепшае.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

■ Фізікі, хімікі, лірыкі

# ПРЫЛЯЦІ ЗА МНОЙ, КАРАБЛІК

Кожнай з трох сваіх жанчын /жонцы Святлане, дочкам — сямікласніцы Алёне і пяцігадовай Верачцы/ настаўнік фізікі СШ №3 г.Старыя Дарогі Віктар Шумскі падарыў песню. Уласнага сачынення. Мяне гэты факт не здзівіў: фізікі, — яны заўжды яшчэ і "глыбокія" лірыкі.

Прилети за мной, кораблик.
Прилети за мной, журавлик,—

спявае і акампаніруе сабе на гітары Віктар. Вершы, песні для яго — гэта і адпачынак, і асэнсаванне навакольнага свету, і магчымасць супакоіць нервы.

Аднойчы, калі члены рэспубліканскага творчага аб"яднання настаўнікаў фізікі з"ехаліся ў свой традыцыйны летні метадычны лагер, яны наладзілі конкурс. Вершы тады дапамаглі Віктару выказаць сваё прафесійнае крэда:

Ну а кредо —
Сомнений тут нет —
И совсем уж несложный ответ:
Все отдам, коль за скромный
мой труд
Человечным меня назовут.

І называюць. Як прыемна, напрыклад, было чытаць Святлане і Віктару /яна — настаўнік хіміі, у той жа СШ № 3/ радкі з пісьма аднаго са сваіх выпускнікоў, што вучыўся ў Расіі, у ваенна-хімічным вучылішчы: "Толькі тут мы зразумелі, як Вы жадалі ўбіць у нашы галовы тое, што неабходна".

Вось для таго, каб "убіць неабходнае", і заседжваецца ў школе з раніцы да дзевяці гадзін вечара Віктар. Складае планы ўрокаў, даводзіць да "ювелірнай філіграннасці" свой кабінет фізікі. Да таго ж, Віктар вядзе заняткі ў школьнай спартыўнай секцыі — па баскетболу.

— Ён працуе так, як цяпер мала хто. Ухітраецца ў адносінах з вучнямі праяўляць артыстычныя здольнасці, быць дыпламатам,— гэтая ацэнка загадчыка раённага аддзела адукацыі А.Захаркевіча пра многае, думаецца, сведчыць.

У Святланы — свае клопаты. Яна яшчэ і намеснік дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце. Гэта значыць, неабходна ёй арганізаваць вечар пытанняў і адказаў, правесці бліцтурнір паміж старшакласнікамі і ваеннымі /школа знаходзіцца ў ваенным гарадку/. То наладжваюцца пірагі, сардэчная размова за чаем з хлопчыкамі і дзяўчынкамі. А тут падаспелі выпускныя экзамены з іх святочнасцю і засмучэннем, "пяцёркамі" і непрыемнасцямі.

Апошніх, а таксама праблем, на жаль, у працы настаўніка хапае. Віктара, скажам, вельмі непакоіць, што калі раней у класе не жадалі вучыцца дватчатыры чалавекі, дык цяпер толькі два-чатыры і імкнуцца засвойваць "разумнае, добрае, вечнае".

— Прагматыкі, — уздыхае Віктар.— На маю думку, мы сёння крыху "выязджаем" у Краіне ведаў за кошт спецшкол. Неабходна тэрмінова ўзнімаць на нармальную вышыню дыплом аб вышэйшай адукацыі.

Святлане ж нават у роднай школе, дзе працуе ўжо пятнаццаць гадоў, даводзіцца чуць папрокі. Маўляў, па яе прадмету ў вучняў за чвэрць ажно сем "двоек"! /Гэта ва ўсіх класах, дзе Святлана вядзе хімію/. А яна інакш проста не можа — такое ўжо ў яе прафесійнае крэда. Можа і двоечніку паставіць за чвэрць "чатыры", калі бачыць, што той стараецца, "выкладваецца". А вось "падарыць" нават "тры" лайдаку ў яе рука не ўзнімаецца.

Добра яшчэ, што ўласныя дзеці не прычыняюць асаблівых турбот. Алёна вучыцца толькі на "выдатна", займаецца ў музычнай школе. Верачка ў свае пяць гадоў ведае амаль усе літары, рашае задачкі, з задавальненнем малюе.

Зусім кароткае было маё знаёмства са Святланай і Віктарам Шумскімі. А ў душы яно пакінула светлы след. Так бывае заўжды, калі сустракаешся з цікавымі, захопленымі сваёй справай людзьмі.

*Наталля ТУМАР.*
*г .Старыя Дарогі.*



Калектыў Мінскага гарадскога тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання пенсіянераў з павагай адносіцца да Ганны Антонаўны Вараб"ёвай, якая працуе тут лабаранткай. Яе чулае сэрца, душэўная цеплыня дапамагаюць людзям пераадольваць цяжкасці ў абыдзенным нашым жыцці.

На здымку: Ганна Антонаўна **ВАРАБ"ЁВА.**

*Фота Ілы ДАРОДНЫХ.*

■ Лёсы людскія

# ЗАГАДАНА ВЫЖЫЦЬ

У ТОЕ ЛЕТА ў Ласіцкіх адгрымела ажно два вяселлі. Спачатку ажанілі сына, а праз месяц аддалі замуж і дачку. Дзеці жылі і працавалі ў Мінску. Дачка Ядзя да той пары ўжо скончыла завочна інстытут, стаяла ў чарзе на кааператыўную кватэру і жыла ў маленькім пакойчыку ў рабочым інтэрнаце. Там і пасяліліся яны з мужам Валодзем пасля вяселля.

Як хораша ўсё складвалася! Валодзя штодня страчаў яе пасля работы, і яны бестурботна кружыліся па горадзе. І ён купляў, бывала, ёй без прычыны кветкі. Як хораша думалася! Яны чакалі сына. Ядзя ведала, што гэта будзе менавіта так, бо вельмі хоча гэтага яе Валодзя. І яна ўлетку нарадзіла яму сына — маленькага асілачка Сяргейку ледзь ці не 5 кілаграмаў вагою.

К зіме спраўдзілася яшчэ адно іх доўгае чаканне: атрымалі кватэру. Гэтак высока! Ядзі здавалася, што рукою дастаеш аблокі. У двары, каля саменькага дома, — дзіцячы садок, школа. І Ядзя бачыла, як настане дзень, і яна возьме маленькую Сяргейкаву ручку ў сваю дужую і цёплую і павядзе яго ў садок, да дзяцей. Але гэта не спраўдзілася...

Сяргейку якраз мінуў гадок і тры месяцы, як Ядзя нарадзіла яму браціка Дзімку. У яе светлым доме пад самымі аблокамі жыло такое высокае шчасце. Раслі сыночкі, і спела ў сэрцы радасць, і жылі ў сэрцы спакой і мір. І страчала Ядзя стомленага мужа ды бясконца, як птушка, шчабятала, расказвала яму пра дзень свой. Яна не чула стомы, не ведала бяссоння. Яна не чула, як хвароба ўжо кралася да яе. Ядзя толькі раз-пораз адчувала ў нагах казытанне нябачных мурашоў. Што гэта? Гэта бяда ішла. І калі яна перастала чуць маладую лёгкасць у нагах, а валілася як падкошаная, гайдалася, не маючы сілы стаяць, тады Валодзя адвёз Ядзю ў бальніцу, а дзетак — да бабулі ў вёску над Свіслаччу, у Церабуты. І бабуля Марыя Пятроўна пакінула работу ў калгасе, прыгарнула да сябе, як птушанятак, маленькіх унучанят сваіх. Дзімку два месяцы мінула. Дзед Станіслаў Адамавіч нацягнуў у садзе шнуры — і затрапяталі на іх пялёнкі ды сарочачкі.

І пайшлі, пацягнуліся дні трывог. Ядзя перастала чуць ногі свае. Яны сталі чужыя, халодныя, як не яе. Урачы пацiскалі плячыма, не ведаючы, што сказаць, як лячыць. Хваробу яе ўрачы назвалі так: рассеяны энцэфаліт. Хвароба гэтая не слухалася ніякіх лякарстваў. І тады Ядзю выпісалі дамоў. Прывёз Валодзя дачку бацькам. Прынёс у хату з машыны на руках. Думалася, што міне яшчэ месяц, два, ну ад сілы год, — і забудзецца хвароба, і вернецца ўсё былое, спакойнае і простае. Ядзя будзе няньчыць сваіх сыночкаў, будзе гатаваць Валодзю сняданкі і страчаць з работы ў іх высокім гняздзечку, віць сваё шчасце жаноцкае...

У жніўні Дзімку будзе тры гады, і амаль столькі ж — Ядзінай хваробе. Дзімка рос, а яе хвароба старэла. Яна забыла, як цалуе рукі і твар залаты праменьчык сонца. Ёй няможна лашчыцца на сонцы. Так хоча яе хвароба. Яна забыла, як гэта самой выбіраць, купляць абноўку сынам. Яна забыла пра гэтую радасць. Забыла пра тое, як стогне спіна, калі ты цэлы дзень корпаешся ў бацькоўскім агародзе, латошыш лебяду ці збіраеш крамяныя агуркі, мяккія далікатныя клубніцы, сонечныя памідоры. О, як шмат гэтага ў бацькоўскім агародзе! Як любіла Ядзя калупацца там разам з маці! Як хораша ўсё расло! І гэта было яе: маленькі дворык з кустамі півоняў пры самым акне і з купчастымі зараснікамі парэчак у агародзе. З копамі сена за сядзібай. Усё гэта было яе! Яна мерала лёгкаю маладой хадою сваю зямлю. І глядзелася ў раку, і бачыла, як у самым небе трапятаў крылом бусел — і падаў каменем у сваё гняздо, задраўшы галаву, радасна клекатаў. У сваёй хаце, у сваім гняздзе. А Ядзя не можа вярнуцца ў сваё гняздзечка, якое так мірна ладзілі яны з Валодзем, так сагравалі яго сваёй любоўю. Ён колькі разоў вазіў яе туды. У Валодзі ўсё чысценька. Ён не хоча, каб патухла цяпло іх дома. Прыбірае сам. А Ядзі стала там адзінока. Бо не чула яна там сваіх сыночкаў. А забраць іх з сабою няма сілы. Ногі чужыя. Як жыць, людзі добрыя, скажыце! Маці сварыцца на Ядзю. І Ядзя ведае, што пакуль жывыя на свеце бацькі, ёй быць у іх пад крылом. Яна бачыць, як выбіваецца з сіл яе Валодзя: кожную суботу імчыцца сюды, да сваёй сям"і. І дзеці апшчапераць яго за шыю — і рады гэтак, божа мой! І ён стараецца памагчы чым-небудзь бацькам. Ядзя бачыць, як падае, валіцца з ног маці, як збялелі яе валасы за гэтыя гады. І есць жменямі лякарствы, каб суняць боль у сэрцы. Ядзя бачыць. І не можа ўстаць і ўзяць на рукі сына. Яна бачыць, як Дзімка, пабіўшы ручку, утапіў свой боль у цёплым бабіным прыполе. Ён ведае, што нельга трывожыць маму. Ён, як старое, разважае, што калі паспеюць на градах агурочкі і бурачкі, яны напакуюць іх у сумку і паедуць да сябе ў Мінск. А баба і дзед да іх у госці прыедуць. А яны з Сяргейкам пойдуць у дзіцячы садок, а тады і ў школу. О, мілы мужычок Дзімка! Каб спраўдзілася тваё жаданне! Як хочацца Ядзі, каб сталася ўсё так, як бывае ў сне. Калі яна раптам пачуе сілу ў нагах і ходзіць па зямлі і па прыступках у сваім гарадскім доме. Ах, каб спраўдзілася! А так — як жыць ёй, людзі добрыя?

Як вярнулася яна сюды, у матчыну хату, дзядзька Мікола аддаў ім каляску. Без патрэбы яна цяпер. Міколава жонка, цётка Вера, памерла. І Ядзя асвоіла няхітрую механіку — і трошкі ямчэй ёй стала на гэтых колах. Зяць цёткі Соні дастаў ім, прывёз ажно са Швейцарыі, уколы за 80 даляраў. І ён жа параіў урача, што працуе ў Кіеве. Ён лечыць такую хваробу, як у Ядзі. І ўрач той, Уладзімір Андрэевіч Бярсенеў, паабяцаў Ядзі, што верне сілу нагам яе праз год. Але год мінуў. І шэсць разоў Валодзя вазіў яе ў Кіеў. Шэсць разоў збіралі яны ў кучку грошы бацькоўскія, Валодзеў заробак, Ядзіну пенсію і выпраўляліся ў Кіеў па надзею. А старшыня калгаса імя Кірава Анатоль Іванавіч Панчанка штораз даваў калгасную машыну, каб адвезці Ядзю ажно ў Асіповічы да цягніка і потым, пасля лячэння, зноў стрэць. А там Валодзя нёс яе ў цягнік на руках. І кожны раз, калі яна бачыла ўрача свайго, Бога свайго, чакала цуда. А яно не прыходзіла. І толькі пасля шостага сеанса лячэння ногі кpанyў лёгкі цень болю. Як чакае яна таго болю! Няхай прыйдзе, няхай ажывіць яе нячутныя ногі, як просіць яна аб гэтым! Урач ведае, як лячыць Ядзю. Але для гэтага патрэбен стацыянар. А яго пакуль што няма. Калі ён адкрыецца ў Кіеве? Колькі будзе доўжыцца яе гаротніцкі шлях? Але ўрач зноў пакінуў ёй надзею. І зноў так марудна цягнуцца яе дні ў трывожным чаканні.

А мо і праўда сказала ёй дзіцячая душа, мо і праўда пачула сынава сэрцайка, што калі паспеюць на градах агурочкі...

Каб толькі стаць нагамі на зямлю, каб хоць ісці па ёй ціхенька-ціхенька, каб хоць па сваёй хаце, па сваім двары, па сваёй зямлі.

*Анюта ЯБЛОНСКАЯ.*
*в. Церабуты Пухавіцкага раёна.*

■ Память

# ЭТО ЗАБЫТЬ НЕЛЬЗЯ

**Всякий раз, когда иду в свой гараж по улице 50-летия БССР, останавливаюсь у памятника жертвам фашизма. Закрываю глаза и отчетливо вижу бело-красно-белый флаг и такие же полосатые нарукавные повязки у полицаев. Да, именно сюда вывозили фашисты узников борисовской тюрьмы, здесь расстреливали невинных советских людей...**

Когда началась Великая Отечественная война, мне еще не исполнилось 18 лет. В страшные дни нашествия надо было из Воложина добраться до родной деревни Берня, расположенной в двух десятках километров от Борисова. Все военнообязанные мужчины ушли в военкомат, а женщины в отчаянии плакали. Тяжелое чувство безысходности давило и меня. Лучше других понимал состояние моей души родной дядя — брат моей матери Максим Ковалев, бывалый партизан, участник гражданской войны.

— Запомни, Вася, нашему народу дорога Родина, та жизнь и свобода, которую мы завоевали, — говорил он. — Нам было очень трудно, потому что на нас тогда обрушился вооруженный до зубов весь капиталистический мир. И все-таки, полуголые, полуголодные, с винтовкой в руках, мы отстояли наши завоевания. Нас немцы не победят. Отступление — временное.

И он оказался прав. После таких разговоров становилось легче на душе, появлялась какая-то определенность и надежда. Но вскоре случилось вот что.

Осенью 41-го года Гитлер издал приказ о постановке на учет с выдачей документов немецких властей лицам мужского пола. Все должны были явиться в Борисов. За неявку — расстрел. Мы с товарищами вышли из дому рано, но к нашему приходу на месте регистрации было уже многолюдно. Выстроившись в колонну по четыре человека, люди подходили к окошку дома / он сейчас находится напротив рынка по улице Лопатина/. Подошедших заносили в списки и выдавали «аусвайсы».

Мы в колонне держались своей берницкой группой. Когда приблизились к окошку, то обратили внимание, что справа и слева появилось несколько полицаев с оружием и полосатыми повязками на рукавах. Один из них назвал имена Петра Шобика, Ивана и Леона Лысковцов, Григория Тумара и меня. Повели нас в Ново-Борисов.

После ночлега в подвале дома, где сейчас располагается райотдел милиции, нас перевели в тюрьму. Сразу же начались допросы. В ярко освещенном отсеке развернут бело-красно-белый флаг. Меня остановили перед столом, за которым сидел немецкий офицер. Справа от меня стоял переводчик, слева — крупный верзила, функции которого я узнал позже.

Первый вопрос ко мне:"Сколько человек в вашей банде?" За стеной отсека — неистовый женский крик. «В какой банде?» — на вопрос переводчика отвечаю вопросом. Непонятное резкое слово офицера, страшной силы удар по туловищу слева. «Сколько оружия в банде? Где хранится оружие? Кто руководит бандой?» На каждый вопрос и мой ответ — удары по голове, по лицу, по спине и по бокам. Кровь, чертики в глазах. Окровавленного, в полусознательном состоянии волокут по коридору и бросают в камеру. И так через день.

Наши «предшественники» по камере разбили стекло в окне за решеткой и проделали отверстие. Мы расширили его, появилась возможность при помощи табурета и параши обозревать тюремный двор. Были видны и входные ворота. Этот секрет мы тщательно скрывали от надзирателей.

Мы видели, как во двор часто заезжала и выезжала одна и та же крытая грузовая автомашина. Когда она въезжала и останавливалась около центральной двери тюрьмы — открывался борт, и на землю сбрасывалась одежда. По коридору слышались шаги кованых сапог, лязгали ключи от одной камеры, второй. С криком и бранью людей гнали к выходу, толкали в машину, закрывали борт — и машина снова уезжала. Через некоторое время мы отчетливо слышали треск автоматных очередей. С возвратившейся машины снова сбрасывалась одежда. И так несколько раз в день.

... Стою у памятника, закрываю глаза и вижу фашистский бело-красно-белый флаг и свастику. Да, людей, вывозимых из тюрьмы, фашисты расстреливали именно здесь.

Допросы прекратились примерно дней через двадцать после нашего ареста. Нас стали выводить во двор, где мы рыли и закапывали ямы, пилили бревна. Последние дней десять сбивали ящики для посылок, упаковывали в них снятую с узников одежду, которую фашисты отправляли в Германию своим семьям. Пулевых прострелов в одежде не было, значит, она снималась с еще живых людей.

Все мы ежеминутно ожидали погрузки в автомашину, но вдруг Леону Лысковцу и Григорию Тумару велят идти за документами. От неожиданности подкосились ноги. Меня выпускают последним. От калитки тюрьмы и до поворота на Ухолоду я ни разу не оглянулся, мне все время казалось, что вот-вот раздастся автоматная очередь или схватят за шиворот и снова вернут в стены тюрьмы. И только повернув в сторону Ухолоды, я устало опустился под сосну и стал соображать, что со мной происходит. А в голове роились разные мысли.

«Почему нас выпустили из тюрьмы?» Этот вопрос не давал покоя. Ведь столько наших людей расстреляли, а мы остались живы... Я думал об этом на протяжении всего пути к родной деревне. Частично прояснилось, когда пришел домой и встретился с родственниками, односельчанами. Оказывается, яйца, куры, лук, золотые и серебряные вещи родственников и соседей, жителей не только Берни, но и Осова, ушли в тюрьму на выкуп за нас.

Вырвавшись из когтей фашистов, я не думал о том, что делать дальше. А тут как раз подвернулся случай. Декабрьской ночью 1941 года в окно дома, где мы жили вместе с бабушкой, раздался легкий, но настойчивый стук. На мой вопрос «кто там?» послышался голос моего одноклассника с Заполья Мишки Панковца. Вместе с ним был незнакомый человек, который представился Буховым, командиром спецгруппы из-за линии фронта. Он и определил задачу.

Силы сопротивления фашистам в Борисовском районе росли стремительно. До нас дошли сведения о скоплении крупных соединений партизан в районе озера Палик. Уже весной 1942 года в наших краях появляются не только отдельные группы народных мстителей, но и партизанские отряды. На базе молодежной группы в составе учителя Феди Алексеева, Максима Белого, Марка Панковца, Кирилла Костюкевича и братьев Юдановых создается отряд имени Ворошилова. В деревне Яблонька Федя Павловец разоружает группу полицаев «дикого» велятичского полицейского гарнизона и убивает самого ярого холуя-прислужника. В отряд уходят родители Феди, его братья Петя и Володя, сестры Соня и Мария.

Фашистские идеологи и их пособники из числа белорусских националистов под руководством бургомистра города и района Станкевича решают открыть школы для оболванивания наших детей, восхваления «нового порядка» в Европе. По ряду соображений и мне было предложено идти работать в начальную школу деревни Дроздино. Занятия в этой школе начались в октябре сорок второго года под флагом, который сегодня развевается над Домом правительства и в белорусском парламенте. Тем самым у меня появилась возможность свободно бывать в метченском полицейском гарнизоне и даже в кабинете бургомистра Панковца.

Мы начали планомерно готовиться к разгрому этого гарнизона, который был крепким орешком. К концу того же года в полиции появились наши люди: Гена Адамейко, Василий Насовец, Мишка Костюкович, Семен Грук, Гриша Костюкович. Нашли подход к начальнику полиции Дивину. Гарнизон был разгромлен в январе 1943 года согласно заранее разработанному плану, практически без единой капли крови с нашей стороны...

25 июня 1944 года, а к тому времени мы располагали уже достаточно большими силами, был получен приказ выступить в направлении деревни Рудня Червенского района, организовать на дороге боковое охранение, расчищать ее, строить мосты через речушки и каналы. На этой дороге мы и встретили первые наступающие наши танки. Перед нами стояла задача: продвигаясь в направлении Минска, прочесывать лес, выкуривая остатки немецких войск.

На подступах к столице, в районе Тростенца, мы почувствовали запах гари со сладким привкусом, которая стала лезть в горло, разъедать глаза. Справа по ходу стали видны большие курганы, окутанные черно-сизым дымом. Из дыма вырывались языки пламени. Подойдя поближе к курганам, мы ужаснулись: горели огромные груды человеческих тел. Все просто остолбенели, потеряли дар речи. Это забыть нельзя!

Неизгладимые впечатления остались и от парада белорусских партизан, в котором довелось принимать участие. Освобожденный Минск ликовал, хотя город был в развалинах. Столичная площадь заполнена колоннами народных мстителей и жителей Минска. Город слушал выступление многотысячного хора под руководством Григория Романовича Ширмы. Все пели о дружбе и сплоченности народов нашей Родины — Союза Советских Социалистических Республик, о мужестве и героизме воинов и партизан — защитников родного Отечества.

... Меня, как и многих других инвалидов войны, часто беспокоят старые раны. Но еще больше бередит душу установленная парламентом новая символика — бело-красно-белый флаг, под которым фашисты и предатели Родины творили ужасные злодеяния против нашего народа. Мы этого принять не можем ни душой, ни сердцем.

*Василий ДЕМИШ,*
*инвалид Великой Отечественной войны,*
*бывший партизан отряда имени Ворошилова.*

# ПАДАРУНАК, ПУЦЁЎКА І ПАВЫШЭННЕ КАТЭГОРЫІ

Напярэдадні прафесійнага свята медыцынскіх работнікаў у Барысаве прайшоў традыцыйны конкурс «Лепшая медсястра ГТМА». У ім прынялі ўдзел 18 лепшых сясцёр міласэрнасці розных падраздзяленняў гарадскога тэрытарыяльнага медыцынскага аб"яднання. Кампетэнтнае журы ўлічвала не толькі тэарэтычную падрыхтоўку канкурсантак і іх уменне практычна рашаць сітуацыйныя задачы, а і якасць выканання дамашняга задання. Кожная ўдзельніца конкурсу павінна была прадставіць свой санбюлетэнь або міні-газету «Гумар у белым халаце».

Па выніках конкурсу лепшай медсястрой горада на Бярэзіне прызнана сястра міласэрнасці інфекцыйна-педыятрычнага аддзялення гарадской бальніцы Тамара Казак. Пераможцы, згодна з умовамі конкурсу, без экзаменаў прысвоена другая кваліфікацыйная катэгорыя. Другім прызёрам конкурсу стала медыцынская сястра паліклінікі № 1 Валянціна Вайцяшонак, якой уручана санаторная пуцёўка. Трэцяе прызавое месца дасталося медсястры радзільнага дома Таццяне Зарэмба. Яе стаpанне і поспех адзначаны каштоўным падарункам.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

# БУДНІ ПРАВІНЦЫЯЛЬНАГА ПРАКУРОРА

**По ўсіх канонах — аддаленасці ад сталіцы, адсутнасці магутных прадпрыемстваў, пераважнасці сельскагаспадарчай вытворчасці, Любаншчына — правінцыя. Але крымінагенная сітуацыя тут мала чым адрозніваецца ад той, што мае месца ў буйных цэнтрах. У чым няцяжка пераканацца, крышку бліжэй пазнаёміўшыся з работай мясцовай пракуратуры. Якая, як вядома, у першую чаргу стаіць на варце закона.**

## Такога тут не бывала

Абабралі магазін. Не дзяржаўны, дзе за ўкрадзенае асабіста ніхто вельмі не хвалюецца, а камерцыйны. Гаспадары яго падалі заяву ў міліцыю. Далі аб"яву ў газету з абяцаннем буйной сумы таму, хто навядзе на след зладзеяў. Хтосьці, у спадзяванні на прэмію, нешта шапнуў камерсантам. А міліцыя зладзеяў усё не знаходзіла.

Тады ўладальнікі магазіна кінуліся ў Мінск да нейкіх асоб. Маўляў, здагадваемся, хто нас абакраў, застаецца толькі грошы ў яго забраць. Са сталіцы прымчаліся чацвёра "крутых", столькі ж знайшлося памагатых і ў Любані. Яны адлавілі падазронага мужчыну, які, дарэчы, таксама камерцыяй займаўся. Запатрабавалі дзесятак мільёнаў — для кампенсацыі. Той ніяк не прызнаваўся ў крадзяжы, адмаўляўся плаціць. Тады яго вывезлі ў лес. Прывязалі вяроўку за ногі. Перакінулі цераз галіну. Падцягнулі ўверх. Дасталі з багажніка каністру. Пазней падвешаны заявіць, што яго аблілі бензінам, пагражаючы падпаліць, рэкеціры будуць даказваць, быццам кроплі выпадкова трапілі на яго вопратку...

Карацей, усё ж забралі ад мужыка тысячу долараў, 300 дойчмарак. Падумалі — мала. Вымусілі яго "падарыць" ім амаль новыя "Жыгулі". Тут жа пераафармілі дакументы. З чым, задаволеныя, і паехалі ў Мінск.

Але дваіх з іх хутка даставілі назад у райцэнтр. Ужо пад канвоем. Бо іх ахвяра не захацела маўчаць, губляць буйныя грошы. Заявіла ў міліцыю. Арыштавалі і чатырох любанскіх вымагальнікаў. Два іх сталічныя "калегі" кінуліся ва ўцёкі, быццам бы ў Расіі хаваюцца.

— Спачатку вымагальнікамі заняліся следчыя аддзела ўнутраных спраў, — расказвае пракурор раёна Л.Ф.Дудко. — Але справа аказалася даволі складаная, таму за яе ўзяліся нашы работнікі. Бо рэкецірства — злачынства для раёна новае.

І не толькі яно. Каму раней патрэбны былі, напрыклад, медны кабель ці электрарухавікі? Іх жа на кухні не прыстасуеш. Цяпер крадуць — толькі трэск ідзе. Знікаюць сотні метраў кабелю з камбіната будаўнічых матэрыялаў, абрываюць яго са зварачнага апарата ПМК-101, знікаюць электрарухавікі ў аддзяленні "Сельгасхіміі". А ўсё таму, што ў блізкім замежжы добра плацяць за каляровыя металы. Туды ж пачалі перапраўляць калгасныя вадкія ядахімікаты, угнаенні. І гэта пры тым, што сёлета на трэць узрасла колькасць цяжкіх цялесных пашкоджанняў, летась за гэты час у раёне не было ні аднаго забойства, цяпер — ужо два. Толькі паспявай фіксуй, расследуй...

## Калі няма бар"ера

Летась у раёне ўчынены 402 злачынствы. У 1988 годзе, напрыклад, іх было толькі 225. Найбольшы рост даюць крадзяжы.

— І асабліва — у дзяржаўных магазінах, — гаворыць Леанід Фёдаравіч. — Я не раз афіцыйна папярэджваў кіраўніцтва райспажыўтаварыства: гандлёвыя кропкі дрэнна ўмацаваны, слаба ахоўваюцца. Вынікі? Амаль ніякіх. Дзе-нідзе паставілі на вокнах металічныя краты. Для адчэпнага, бо паміж прутамі пралазіць чалавек. Не дзіўна, што піўбар ва Урэччы, напрыклад, абкрадвалі столькі разоў, што мы ўжо з ліку збіліся. Камусьці такія злачынствы, відаць, на руку...

Хвалюе пракурора, што сёлета ў параўнанні з мінулагоднім на 50 працэнтаў узрасла злачыннасць з боку беспрацоўных. І каго ў тым вінаваціць? Не так даўно дармаедаў амаль сілком накіроўвалі на працу, цяпер некаторыя самі прыходзяць у пракуратуру:"Дапамажыце уладкавацца на работу!" Ды хіба ўсім дапаможаш? Асобныя не вытрымліваюць, працягваюць руку па чужое. Асабліва калі на той жа калгаснай свінаферме няма вартаўніка. Вось і множацца пратаколы ў міліцыі, а гэта — дадатковая работа і пракуратуры. Ці ж застанешся ўбаку, калі ў некаторых "парасячых" крадзяжах ужо адразу да дзесяці чалавек замешаны? Крышку заспакойвае толькі тое, што раскрывальнасць злачынстваў у параўнанні з леташнім прыкметна ўзрасла, складае 75,5 працэнта супраць 61,2 па вобласці.

Але не рост злачыннасці — галаўны боль Л.Ф.Дудко. На першым плане ў яго — захаванне законнасці ў раёне. А дабіцца гэтага сёння куды больш складана, чым чатыры-пяць гадоў назад. Раней як? Няправільна дырэктар размеркаваў кватэры — яго клічуць у райком партыі: "Не зробіш усё па закону — кладзі партбілет на стол!" Нярэдка дзейнічала лепш за пракурорскія прадпісанні. Цяпер жа дырэктары, старшыні, загадчыкі мала каго баяцца, некаторыя вельмі ўжо "суверэннымі" сябе адчулі. І робяць што хочуць. Напрыклад, за дрэнную работу райвыканкам вырашыў вызваліць ад абавязкаў кіраўніка жыллёва-камунальнай гаспадаркі І.І.Языльца. Можна сказаць, загадчыка свайго ж аддзела. А калі пытанне вынеслі на сесію райсавета, прыехаў адзін з кіраўнікоў абласной камунальнай службы, заявіў:"Не маеце права звальняць! Гэта наш чалавек! Прычым нядрэнны..." Абараніў Языльца. Хіба ж будзе пасля гэтага ў мясцовых улад аўтарытэт?

Таму Л.Ф. Дудко імкнецца бываць на ўсіх пасяджэннях, сходах, дзе прымаюцца адказныя рашэнні. І калі праекты іх ідуць у разрэз з законам — адразу папярэджвае, раіць, як зрабіць лепш. Бо калі рашэнне вынесена і потым яго апратэставаць, вельмі ўжо неахвотна прызнаюць людзі свае памылкі.

## Па ўзору 1944 года

На рост насельніцтва і злачыннасці Любаншчына, вядома, не можа не рэагаваць. Калі яшчэ не так даўно ў міліцыі працавалі тры следчыя, то цяпер — дзевяць. Справы разглядаюць ужо тры суддзі, а не адзін. А ў пракуратуры штаты тыя ж, што былі ўстаноўлены летам 1944 года, як толькі Любань вызвалілі ад немцаў: пракурор, памочнік, следчы, загадчык канцылярыі, кур"ер, шафёр. Без змен. Калі не лічыць таго, што конюха замяніў шафёр.

— Бывае, два суддзі адразу разглядаюць складаныя справы — нам трэба кідаць усё, ісці ў суд, — гаворыць Леанід Фёдаравіч. — А колькі матэрыялаў ад следчых пераглядзець трэба! Крыўдна, што суседні Старадарожскі раён, напрыклад, амаль у два разы меншы за наш, а штаты тыя ж самыя. У некаторых падобных раёнах нават большыя. Размова ідзе не толькі аб вялікіх нагрузках на работнікаў. У такіх умовах можна і памылку зрабіць. А за ёю ж — лёс чалавека.

Пакуль што, як кажуць, бог бараніў ад такіх "праколаў". Пракуратура не ліберальнічае, сёлета па яе санкцыях арыштаваны ўжо паўсотні чалавек. І ніхто ні аднаго арышту не апратэставаў. Дарэчы, як і на працягу апошніх гадоў. Няма і іншых буйных памылак.

Дык навошта чакаць горшага?

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

---

## МІНСКАЯ ХРОНІКА

### Да свята Незалежнасці

Мінск рыхтуецца да Дня незалежнасці Беларусі, які будзе адзначацца 27-га ліпеня. Ва ўсіх раёнах горада адбудуцца масавыя гулянні, выступленні прафесійных і самадзейных калектываў. Да помніка на плошчы Перамогі і абеліска "Мінск — горад-герой" будуць ускладзены кветкі. Прадугледжан і святочны салют.

### Крылатая дапамога

У адным з апошніх нумароў газета "Добры вечар" пад рубрыкай "Міжнароднае супрацоўніцтва" расказала аб распрацоўцы беларуска-нямецкага праекта аказання насельніцтву "крылатай" медыцынскай дапамогі. Толькі на першапачатковым этапе будзе выдаткавана звыш трох мільёнаў нямецкіх марак, якія ўкладвае Міжнародная арганізацыя па аказанню паветранай меддапамогі, што размешчана ў Германіі.

### У тры разы

З 16 ліпеня ў тры разы павышаны цэны на гарэлку. Без кошту самой бутэлькі цяпер за паўлітра "Маскоўскай" ці "Рускай" трэба выкласці 27100 рублёў, "Сталічнай" ці "Пшанічнай" — 27500 і "Белай Русі" — 30.000 рублёў.

### Дзве выстаўкі

Сёння ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрываюцца дзве выстаўкі. Адна з іх атрымала назву "Святло таямнічай сімволікі", а другая пазнаёміць наведвальнікаў са зброяй ад старажытных часоў да першай сусветнай вайны.

### Прэм"ера ў народным

Папоўніўся рэпертуар народнага тэатра Палаца культуры прафсаюзаў. Тут адбылася прэм"ера спектакля Сямёна Лабазерава "Вар"ят да свята". У галоўных ролях выступілі Ала Скарабагатая, Андрэй Гапееў, Генадзь Сінякоў, Марыя Далгіх. Пастаноўку спектакля ажыццявіў мастацкі кіраўнік тэатра Генадзь Давыдзька.

### Чвэрць стагоддзя з "Песнярамі"

Месцам ушанавання "Песняроў" з нагоды іх 25-гадовага творчага юбілею будзе "Славянскі базар". Бенефіс дзяржаўнага ансамбля, які ў гонар круглай даты, магчыма, удастоіцца звання "Нацыянальны", адбудзецца ў Мінску на фестывалі 24 ліпеня. Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, нязменнага лідэра "Песняроў" Уладзіміра Мулявіна чакаюць у гэты святочны дзень не толькі кветкі і апладысменты, але і высокая ўзнагарода — медаль Францыска Скарыны. Не застануцца без "дзяржаўнай" узнагароды і іншыя ветэраны калектыву.

### Новая спецыялізаваная

У мінскай СДЮШАР па веславанню многія гады плённа працавала аддзяленне па ветразёваму спорту. У сувязі з яго папулярнасцю і павелічэннем колькасці займаючыхся, Мінгарвыканком прыняў рашэнне выдзеліць гэтае аддзяленне ў самастойную спецыялізаваную дзіцяча-юнацкую школу алімпійскага рэзерву па ветразёваму спорту.

*Падрыхтаваў Павел ЖУРБА.*

---

■ Народныя таленты

# ЯК ЗАЯВЯЦЦА МУЗЫКІ — СЛАЎНА СКАЧУЦЬ ЧАРАВІКІ

**Усё пачалося з прагляду тэлеперадачы "Грай, гармонік", якую арганізавалі вялікія знаўцы народных музычных інструментаў браты Аляксандр і Дзмітрый Завалокіны. Гэта было дзесяць гадоў таму назад. Менавіта тады Уладзімір Яршоў і вырашыў стварыць свой ансамбль народнай музыкі "Гармонікі". З гэтай мэтай напісаў пісьмо на ўсесаюзнае тэлебачанне, у якім папрасіў братоў Завалокіных падзяліцца набытым вопытам.**

І якой радасцю засвяціліся яго вочы, калі з Масквы прыйшло пісьмо з канкрэтнымі парадамі, нотамі, песнямі, прыпеўкамі! Заставалася толькі падабраць удзельнікаў. Мог наведаць дзіцячыя музычныя школы горада, прыглядзецца да юных музыкантаў. Мог пераманіць іх з якой-небудзь культасветустановы. Але выбраў больш цяжкі шлях, пачаў "прачэсваць" жылыя масівы Заводскага раёна сталіцы, сустракацца з хлопчыкамі, якія не ведалі, чым заняцца ў вольны час. І цяпер, больш чым праз дзесяць гадоў, ён добра памятае кожную гутарку з імі, як памятае і першую рэпетыцыю, і першы канцэрт. Дарэчы, за гэты час іх дадзена больш за 200. Былі на гастролях у Карэліі, Санкт-Пецярбургу, Вільнюсе. Нядаўна вярнуліся з Кіева, дзе былі па запрашэнню Дарніцкага райвыканкома. Пасябравалі там з ансамблем бандурыстаў. Юныя музыкі часта выступаюць перад замежнымі дэлегацыямі.

— Мае першыя гарманісты цяпер ужо не ўдзельнічаюць у ансамблі. Атрымаўшы пасведчанні аб заканчэнні базавай школы, некаторыя з іх паступілі ў тэхнікумы ці вучылішчы, а некаторыя перайшлі ў дарослыя калектывы мастацкай самадзейнасці, — зазначыў Уладзімір Васільевіч. — Не менш таленавітыя хлопчыкі і дзяўчынкі, якія цяпер выступаюць у ансамблі народнай музыкі.

У гэтым я пераканаўся, калі прысутнічаў на заключным канцэрце лаўрэатаў і дыпламантаў фестывалю народнай творчасці "Спадчына" г.Мінска, які праходзіў сёлета ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета. Выступленне юных артыстаў ансамбля народнай музыкі "Гармонікі" комплексу пазашкольнай работы "Золак" Заводскага раёна гледачы ўзнагародзілі доўгімі і шчырымі апладысментамі.

— Так цёпла нас праводзілі са сцэны і тады, калі ў Белдзяржфілармоніі выступалі разам з братамі Завалокінымі. Гэта было два гады таму назад, — сказаў Уладзімір.

— Ансамбль "Гармонікі" — упрыгожанне кожнага нашага мерапрыемства. Зайграюць — душа ажывае, — пачуў я пасля заключнага канцэрта лаўрэатаў і дыпламантаў фестывалю ад заслужанага работніка культуры Беларусі, дырэктара Цэнтра адраджэння і развіцця беларускай культуры Мінскага гарвыканкома Мікалая Агароднікава.

Сапраўды, гармонікі ў руках хлопчыкаў нібы жывыя. З расцягнутых мяхоў вырываюцца мелодыі — блізкія, родныя. Яны кранаюць запаветныя струны душы, ахінаюць ціхай задуменнасцю, напаўняюць яе весялосцю. Адным словам, як зайграюць гэтыя музыкі — просяцца ў скокі чаравікі.

Сярод удзельнікаў ансамбля "Гармонікі" самы высокі рэйтынг, бадай, у дзевяцікласніка Дзімы Герасімовіча і яго сястрычкі Надзейкі. Здаецца, што гэты хлопчык з пялёнак грае на гармоніку. У дзяўчынкі голас чысты, крынічны. Нібы званочак. Падкупляюць слухачоў артыстычнасць і віртуознасць юных гарманістаў Максіма Канцумера, Руслана Багуслава, Яўгена Жаўткевіча, Дзімы Наўгародава.

Нядаўна ў калектыў прыйшла новенькая — Таня Філон. Ведае столькі народных песень, што наўрад ці ўгоніцца за ёю хтосьці з дарослых спявачак. А сёлетняй восенню ў ансамбль будзе прыняты сын Уладзіміра Васільевіча — Саша. Ужо нядрэнна грае на гармоніку. Дачушка Маша, як адзначыў Яршоў-старэйшы, таксама просіцца ў "Гармонікі", але няхай яшчэ крышку падрасце. У гэтай сям'і ёсць яшчэ адзін актыўны ўдзельнік і арганізатар мастацкай самадзейнай творчасці — жонка Уладзіміра Ірына Леанідаўна, якая ў сталічнай сярэдняй школе № 102 стварыла аркестр народнай музыкі. Ён усё часцей "наступае на пяткі" "Гармонікам". Таму зорка глядзі наперад, Уладзімір!

*Уладзімір КОБРЫН.*

**На здымку:** удзельнікі ансамбля "Гармонікі".

---

■ Актуальное интервью

# Контракт? Есть контракт!

**Приказом министра обороны Республики Беларусь введено в действие Положение о прохождении военной службы солдатами, матросами, сержантами и старшинами по контракту в наших Вооруженных Силах. Корреспондент Анатолий СМОЛЯНКО по этому поводу беседует с начальником второго отделения Минского облвоенкомата полковником М.В.КОНСТАНТИНОВЫМ.**

***— Михаил Викторович, кто добровольно может поступить на такую службу?***

— После медицинского освидетельствования контракт могут заключить военнослужащие срочной службы, прослужившие по призыву не менее шести месяцев, военнообязанные в возрасте от 20 до 35 лет, женщины в возрасте от 19 до 35 лет и не имеющие детей.

Прием на военную службу по первому контракту производится на срок два года. А после истечения этого срока он может быть продлен на три или шесть лет, а женщинам-военнослужащим — на три года. Предельный возраст состояния на военной службе — 45 лет.

***— Какие материальные блага положены человеку, поступившему по контракту на службу?***

— Немалые. Денежное, продовольственное, имущественное довольствие будут обеспечиваться по нормам и в порядке, установленном соответствующими документами и законами. Они определяют и получение пенсий, медицинское обеспечение, жилье и другие льготы.

***— Вот, скажем, человек решил заключить контракт. Каким требованиям он должен отвечать?***

— Первое, он должен быть здоров и годен для несения службы в мирное время и в военное с учетом дополнительных требований. Далее, иметь образование не ниже базового и соответствующий уровень профессиональной подготовки, дающей возможность исполнять штатно-должностные обязанности. Иметь положительные характеристики с военной службы или с производства или учебы, обладать высокими морально-психологическими качествами, подготовленным выполнить установленные нормы по физической подготовке. И главное — не иметь судимости, не относиться к числу лиц, в отношении которых ведется дознание, следствие или уголовное дело...

***— Что запрещается?***

— Им запрещается заниматься любыми видами предпринимательской деятельности, оказывать услуги с использованием служебного положения и получать за это вознаграждение.

***— Говорят: пойдешь служить по контракту и будешь вкалывать от зари до зари. А как на самом деле?***

— Служебное время определяется распорядком дня воинской части. Но надо иметь в виду, что придется нести гарнизонную и караульную, внутреннюю службу, исключение предусмотрено для военнослужащих-женщин. Замечу, что могут быть учения, боевые стрельбы или другие мероприятия, предусмотренные уставами, планом боевой готовности.

***— Где жить солдату, поступившему на службу по контракту?***

— Они могут проживать на своей жилплощади, снимать по найму квартиру, им могут выделяться места в общежитии.

***— Как будут предоставляться отпуска?***

— Положением предусмотрены ежегодные отпуска и дополнительные: за исполнение обязанностей в условиях профессиональной вредности и за особый характер службы, для сдачи вступительных экзаменов при поступлении в вечерние, заочные гражданские средние и высшие учебные заведения и при обучении в них. Могут предоставляться отпуска по болезни, по беременности, родам и по уходу за ребенком. Решает эти вопросы командир части.

***— Какова их продолжительность?***

— Отпуск исчисляется в сутках. В него не включается время на путь следования к месту проведения отпуска и обратно, в том числе при отзыве военнослужащего из отпуска. В год поступления на службу по контракту отпуск дается пропорционально времени службы в этом году из расчета два с половиной дня за каждый полный месяц службы. До 15 лет выслуги отпуск — 30 суток, от 15 до 20 календарных лет — 35 суток, от 20 до 25 — 40 суток, а свыше выслуги 25 лет — 45 суток.

***— А если надо уволиться?***

— Положением предусмотрено, что солдаты, матросы, сержанты и старшины, проходящие службу по контракту, увольняются по возрасту, по выслуге лет, по окончанию срока службы, установленного контрактом, по семейным обстоятельствам, по болезни, по сокращению штатов, по служебному несоответствию, за проступки, дискредитирующие воинское звание — по ходатайству товарищеского суда чести, в связи с осуждением судом за совершенное преступление.

***— Скажем, молодой человек решил заключить такой контракт. Куда ему обращаться?***

— В военный комиссариат по месту жительства, где ему обязаны все разъяснить, помочь оформить необходимые документы.

---

■ Здарэнне

# ЯК ЗБІВАЛІ КАНТРАЛЁРА

*Няўдачна закончыўся рабочы дзень рэвізора-кантралёра беларускай чыгункі Аляксандра Гіля. У перапоўненай электрычцы, якая ішла ад станцыі Масюкоўшчына ў Мінск, супрацоўнік чыгункі зрабіў заўвагу падлеткам-курцам. «Пакрыўдзіўшыся» на 55-гадовага рэвізора, хлопцы накінуліся на яго з кулакамі. Аляксандр Гіль вырашыў абараняцца, выкарыстоўваючы газавы балончык, насіць які яму дазваляе спецыяльная інструкцыя. Ззаду на яго адразу ж накінулася яшчэ пяць падлеткаў. Усе разам яны пачалі метадычна збіваць кантралёра. І толькі калі электрычка прыбыла на мінскі вакзал, пасажырам удалося адбіць рэвізора ў азвярэлых недарасткаў. У выніку скрываўлены кантралёр з выбітымі зубамі быў дастаўлены ў бальніцу. А «вясёлая» кампанія ўцякла з месца здарэння. Супраць злачынцаў узбуджана крымінальная справа.*

*Гэта не першы выпадак жорсткага абыходжання з супрацоўнікамі беларускай чыгункі. З пачатку года ўжо зафіксавана больш за 10 такіх здарэнняў. Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў прэс-цэнтры чыгункі, асабліва небяспечным участкам чыгункі стала станцыя Аляхновічы, куды на дыскатэкі прыязджаюць маладыя людзі з бліжэйшых населеных пунктаў. Падвыпіўшы натоўп становіцца некіруемым: б'е шкло, псуе сядзенні, падпальвае вагоны.*

*БЕЛІНФАРМ. Мінск.*

---

Верить — не верить?

# УВИДЕТЬ ПИРАМИДЫ И УМЕРЕТЬ

*Сотрудники КГБ верили в магическую силу «проклятия фараонов»?*

**«Смерть раскинет свои крыла над тем, кто нарушил покой фараона» — эта зловещая надпись, найденная более 70 лет назад в гробнице Тутанхамона, не остановила археологов. Исследования и раскопки египетских пирамид продолжаются и по сей день. Но с каждой новой смертью очередного участника раскопок (по старости или по болезни) в прессе вновь и вновь появляются публикации о «проклятии фараонов»...**

Хотя сами археологи в большинстве своем относятся к легендам о проклятии весьма скептически, иные «компетентные органы», похоже, допускают существование неведомой угрозы, сокрытой в древних пирамидах. В «Книге тайн — 4» Н. Непомнящий приводит такой факт.

В мае 1964 года Н. Хрущев посетил Египет, где завершалось строительство первой очереди Асуанской плотины, возводившейся с помощью советских специалистов. В программе 16-дневного визита значился в том числе и осмотр знаменитых пирамид. Но то ли в Комитете государственной безопасности СССР всерьез отнеслись к многочисленным слухам о «проклятии фараонов», то ли решили подстраховаться и действовать по принципу «береженого Бог бережет»... Словом, по секретным каналам из Москвы в Египет полетела шифрограмма, строго запрещающая экскурсию советского премьера в чрево древних пирамид. И Никита Сергеевич повиновался этому предписанию.

Можно понять сотрудников КГБ, обеспечивавших безопасность пребывания Хрущева в Египте. Стоит ли рисковать здоровьем (а может быть, и жизнью!) столь высокопоставленной особы лишь на том основании, что официальная наука не признает могущества древней магии, с помощью которой египетские жрецы попытались защитить могилы своих царей от грабителей? Ведь журналисты собрали множество фактов действительно странных смертей среди участников раскопок. Лишь несколько примеров:

*** 1823 год. От неведомой болезни, сопровождавшейся высокой температурой и галлюцинациями, умер известный египтолог Д. Бельдзони, обнаруживший могилу сына фараона Рамзеса I...**

*** 1832 год. От странного паралича скончался 42-летний профессор Ж. Шампольон, расшифровавший иероглифы с именами Рамзеса и Тутмоса...**

*** 1858 год. Четверо европейских туристов заболели и скоропостижно скончались буквально через день после посещения пирамиды Гизе и могил фараонов в Долине Царей. Врачи затруднились поставить диагноз...**

Этот печальный список можно продолжать долго. Но разговоры о «проклятии фараонов» начались лишь после того, как буквально за несколько лет скончалось 22 человека, имевших отношение к исследованию гробницы Тутанхамона, в том числе и знаменитый археолог лорд Карнарвон. Тут и появились первые сенсационные статьи. Конечно, в чем-то журналисты перегибали палку—например, гибель «Титаника» с 2200 пассажирами на борту кое-кто тоже приписывал действию проклятия. Ведь этот суперлайнер среди прочих драгоценных грузов вез и мумию предсказательницы, занимавшей высокий пост при фараоне Эхнатоне. На одном из амулетов мумии была такая надпись: «Проснись от затишья, в котором ты спишь, и блеск твоих глаз победит все, что делается против тебя». Мумия хранилась в помещении рядом с капитанским мостиком...

Но в целом загадочная цепочка смертей не оставила равнодушными и ученых. Одна за другой стали появляться гипотезы, призванные объяснить феномен «проклятия фараонов».

*** Ученый-атомщик Луис Булгарини предположил, что «необъяснимая слабость и нарушения мозговой деятельности, от которых страдали многие исследователи пирамид,— следствие воздействия радиации. Мол, жрецы использовали урановую руду (которую и сегодня добывают в Египте) для облицовки усыпальниц...**

*** Биолог Каирского университета Э. Таха заявил в 1963 году, что открыл тайну «проклятия фараонов». Он обвинил во всем опасный грибок, выживший в мумиях на протяжении тысяч лет. На специально созванной пресс-конференции Таха обещал журналистам продолжить исследования, но вскоре погиб в автомобильной катастрофе — у него во время движения случился сердечный приступ, и он не справился с управлением...**

Еще одна гипотеза строится на том, что пирамиды якобы обладают свойством аккумулировать космическую энергию, концентрируя ее, как своеобразная каменная линза в точках «золотого сечения». Опыты показали, что странное воздействие действительно существует, поражая мозг людей. После длительного пребывания в пирамиде появляется необъяснимый страх, возникают галлюцинации... Египетский физик Амр Гохед, проводивший опыты в усыпальнице Хеопса, сказал: «То, что там происходит, противоречит известным законам...» Речь шла об анализе магнитной ленты, которая зарегистрировала вспышки радиации, световые и акустические импульсы. «Тайна находится за пределами рационального объяснения»,— сказал Гохед.

А вот что думают о «проклятии фараонов» читатели «Труда», приславшие письма в комиссию «Феномен»:

**«Возможно, никакого «проклятия фараонов» и не существует. Но есть нравственный закон, запрещающий нарушать покой мертвых. А кто переступит его, того ждет божеская кара. А археологи копаются в пирамидах, которые, по сути являются погребениями, — пишет Светлана Ивановна КОРНЕЙЧУК (учительница на пенсии) из Самары, — вот их и находит «высший суд»...**

**«Даже если «проклятия фараонов» не существует, его следовало бы придумать, — считает В. СЕНЧИН (Москва).— Представьте, что через какое-то время ученые разроют Ваганьковское кладбище и будут возить кости Высоцкого и Есенина по разным музеям мира... Где проходит временная грань, когда безнравственное становится научным подвигом? Ведь если разрыть свежую могилу— это преступление, а если древнюю?.. Это духи умерших наказывают...».**

**«Я живу в Марьиной Роще, в доме, стоящем на бывшем Лазаревском кладбище, — пишет Петр КОЛЫВАНОВ (Москва). — Перед войной его сровняли, заасфальтировали, построили стадион... Мать мне рассказывала, что несколько рабочих, участвовавших в уничтожении кладбища, были ее знакомыми. Так вот, они плохо кончили. Один выпал из окна, у другого стали гнить ноги. Врачи делали ампутацию за ампутацией, пока бедняга не умер. Так что, «проклятие фараонов» действует и в России?»**

Как видите, наши читатели ставят проблему нравственности таких исследований. Нельзя отрицать и существования моральных и нравственных законов, предписывающих свято охранять покой умерших...

**От комиссии «Феномен».** Нам кажется, что читатели «Труда» подняли важную проблему. «Проклятие фараонов» по сути — это проклятие наших предков, не желавших, чтобы кто-то тревожил их после смерти. Это наш подсознательный страх перед мертвыми. И любой психолог или психиатр скажет, что такое «проклятие» способно оказать реальное воздействие на человека, вызвать болезнь, а может, даже смерть.

**Игорь ЦАРЕВ.**

*"Труд"*

■ Сярод кніг

# ПРАЗ СМУГУ СТАГОДДЗЯЎ

Народ, пазбаўлены памяці, не адчувае духоўнай сувязі з пакаленнямі продкаў, а значыць — і адказнасці за працяг іх спраў, за будучыню сваёй зямлі. Такі народ страчвае перспектыву і непазбежна ператвараецца ў штосьці безадметнае, духоўна спустошанае, паслухмяна-пакорлівае.

Аб гэтым падумалася, калі чытаў кнігу «Праз смугу стагоддзяў». Яе ўкладальнік Мікола Багадзяж вядомы чытачам як добры майстар гістарычнага апавядання. Яго матэрыялы прыцягваюць навізной думак, глыбінёй навуковага аналізу, лагічнасцю абгрунтавання і нетрадыцыйным падыходам да самых складаных пытанняў. Іншымі і не павінны быць сапраўдныя даследаванні. Выданне адрасавана педагогам, студэнтам, школьнікам. На яго старонках сабраны гістарычныя нарысы пра дзеячаў беларускага грамадска-палітычнага жыцця і культуры — Рагвалода і Рагнеду, Усяслава Чарадзея і Ефрасінню Полацкую, Сымона Буднага і Казіміра Лышчынскага, Уладзіслава Сыракомлю, Ігната Грынявіцкага і інш. Да нядаўняга часу пра большасць гэтых імёнаў мала хто ведаў, калі і паяўляліся матэрыялы ў друку, то скажоныя, бо гісторыі ў нашай краіне было тады наканавана з навукі ператварыцца ў паслугачку афіцыйнай ідэалогіі, накладвалася вета на публікацыю многіх гістарычных прац пра нашых далёкіх продкаў. Нават сімпозіум па праблемах этнагенезу беларусаў быў забаронены. Над тымі, хто сцвярджаў веліч беларускай гісторыі, хто выступаў супраць яе фальсіфікацыі, вісела пагроза абвінавачвання ў нацыяналізме.

Пачынаецца кніга нарысам гісторыка Сяргея Тарасава «Рагвалод і Рагнеда». Аўтар зазначае, што можна спрачацца аб праўдзівасці асобных дэталей, месцы падзей і часе. Але нельга не бачыць яўнай сімпатыі і павагі да старажытных летапісаў, бо ў вобразах першых полацкіх князёў яны ўвасобілі рысы, якія былі неад'емныя ад тагачаснага кодэкса маралі і гонару. Першыя гістарычныя асобы, чыё жыццё і дзейнасць былі звязаны з тэрыторыяй сучаснай Беларусі, паўстаюць са старонак выдання людзьмі з жывою, ранімаю душою, але нязломным пачуццём чалавечай годнасці. Яны ў многім могуць быць прыкладам для нас сённяшніх.

З цемры мінулага да нас дайшлі імёны князёў, членаў іх сем'яў, военачальнікаў, прадстаўнікоў знаці. Зрэдку ў летапісах расказвалася пра воіна, які праславіўся мужнасцю ў бітве. А як звалі тых, хто будаваў гарады і храмы, хто вырошчваў хлеб, вырабляў рэчы, якія і цяпер экспануюцца ў музеях? Пра аднаго з іх — Лазара Богшу распавядае Мікола Багадзяж. У энцыклапедычных даведніках пра полацкага майстра-ювеліра XII стагоддзя — толькі некалькі радкоў. Ён стварыў шэдэўр старажытнарускага мастацтва — крыж Ефрасінні Полацкай. Аўтар нарыса сабраў немалы фактычны матэрыял. Ён, у прыватнасці, падрабязна апісвае сядзібу ювеліра, раскапаную археалагічнай экспедыцыяй каля 10 гадоў таму назад у Полацку, пералічвае рэчы, якія вырабляў майстар. М.Багадзяж пераконвае чытачоў, што сядзіба тая існавала прыкладна 100 гадоў. Гэта сведчыць аб тым, што тут жыло некалькі пакаленняў майстроў, не заезджых, а сваіх, полацкіх. Дарэчы, нарыс напісаны добрай літаратурнай мовай.

Будучы студэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта, аўтар гэтых радкоў вымушаны быў слухаць лекцыі псеўдагісторыка і фальсіфікатара Л.С.Абецэдарскага, які славутую палачанку, выдатную асветніцу Ефрасінню Полацкую называў цемрашалкай. Ды ці толькі нашаму курсу ён убіваў у галовы такія «адкрыцці»? Не злічыць, колькі было абецэдарскіх, якія з самых высокіх трыбун Францыска Скарыну і Сімяона Полацкага адносілі да сярэдневяковых манахаў, кідалі зняважлівыя словы ў адрас нашага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Ды, дзякуй Богу, рухнулі сцены, за якімі хавалі ад нас сапраўдную гісторыю. Прыйшлі новыя даследчыкі, якія з выцвілых пергаментаў, з ломкіх старонак старадрукаў данеслі да нас звесткі пра продкаў. Мы з імі адно цэлае, бо народ — гэта ўсе, хто жыў на нашай зямлі, любіў і ненавідзеў, гінуў за яе. У кнізе «Праз смугу стагоддзяў» пра многіх з іх чытач даведаецца. Віктар Чаропка ў сваіх нарысах данёс да нас вобразы менскага князя Глеба, князя Вячкі, Міндоўга.

На высокім прафесійным узроўні напісаны артыкулы Уладзіміра Арлова «Ефрасіння Полацкая», «Казімір Лышчынскі», «Ігнат Грынявіцкі». Чытаеш — і ствараецца ўражанне, што чуеш іх страсныя галасы.

Не застанецца чытач раўнадушным да нарысаў Ірыны Масляніцынай, Валянціна Грыцкевіча, Андрэя Майсёнка, Уладзіміра Мархеля, Анатоля Сімакова, Фёдара Ігнатовіча, якія, заглянуўшы ў далёкае мінулае, спрабуюць даць канкрэтныя адказы на пытанні нашых сучаснікаў, вяртаюць з забыцця імёны слаўных сыноў Бацькаўшчыны. Адным словам, кніга «Праз смугу стагоддзяў» падрабязна знаёміць з людзьмі, з тымі, хто сваім розумам і талентам асвятляў шлях іншым.

*Уладзімір АНТОШЫН.*

■ Спорт

## ЧЭМПІЁНА НАЗЫВАЮЦЬ ПЕНАЛЬЦІ

На працягу месяца ў гарадах Злучаных Штатаў Амерыкі праходзіў 15-ты чэмпіянат свету па футболу.

У рашаючым матчы за залатыя ўзнагароды сустрэліся зборныя Бразіліі і Італіі, якія да гэтага па тры разы заваёўвалі званне чэмпіёнаў. І ў асноўны, і ў дадатковы час лік не быў адкрыты. Для выяўлення пераможцы была назначана серыя пенальці. Памылялася адна і другая каманда, але шчасце ўсміхнулася бразільцам. Яны перамаглі з лікам 3:2 і чацвёрты раз заваявалі званне чэмпіёнаў свету.

Бронзавыя ўзнагароды дасталіся шведам, якія ў барацьбе за трэцяе месца перамаглі зборную Балгарыі — 4:0.

## У НУЛЯВЫМ ВАРЫЯНЦЕ

Пяць матчаў другога тура чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па футболу каманды першай лігі правялі ў нядзелю. У чатырох з іх лік не быў адкрыты. Так згулялі магілёўскі «Днепр» і «Дынама-93", бабруйскі »Шыннік" і тарпедаўцы Магілёва, віцебскі «Лакаматыў» і гродзенскі «Нёман», дынамаўцы Брэста і салігорскі «Шахцёр».

Парадаваў сваёй выніковасцю толькі футбольны клуб «Маладзечна». Прымаючы рэчыцкую «Ведрыч» на мінскім стадыёне «Арбіта», маладзечанцы забілі шэсць «сухіх» мячоў.

Учора праведзена яшчэ два матчы. Тарпедаўцы Мінска прымалі «Гомсельмаш», а віцебскі КІМ — лідскі «Абутнік». Гульня дынамаўцаў сталіцы з бабруйскім «Фандокам» перанесена на больш позні тэрмін. Чэмпіёны і ўладальнікі Кубка рэспублікі выехалі ў Францыю, дзе прымуць удзел у міжнародным турніры.

## МЕДАЛІ ЮНІЁРАК

З узнагародамі вярнуліся з першынства Еўропы па тэквандо, якое праходзіла ў сталіцы Румыніі, беларускія юніёркі. Яны заваявалі пяць бронзавых медалёў. Узнагарод удастоены Наталля Старасценкава /вага да 40 кілаграмаў/, Настасся Суслава /43/, Алеся Чарняўская /51/, Марыя Зыгмантовіч /55/ і Юлія Сухавіцкая /да 65 кг./.

## НА ЧЭМПІЯНАТ КАНТЫНЕНТУ

Каманды 30 краін прымуць удзел у чэмпіянаце Еўропы па стральбе з лука, які сёння пачынаецца ў Чэхіі.

Трэнеры нашай каманды асаблівыя надзеі ўсклад аюць на жанчын, дзе першым нумарам заяўлена мінчанка Алена Мархель.

## ДЛЯ КЛУБНЫХ КАМАНД

У штаб-кватэры Еўрапейскай канфедэрацыі валейбола праведзена жараб"ёўка двух першых тураў кубкаў Еўропы для клубных каманд.

Мінская жаночая каманда «Амкадор» уступіць у барацьбу за Кубак чэмпіёнак з другога тура. У снежні яе сапернікам будзе пераможца пары «Валао» з Нідэрландаў і БТВ з Швейцарыі. Каманда «Энка» з нашай вобласці выступіць у Кубку федэрацыі. Першы матч яна згуляе з іспанскім клубам «Лос Кампадрэс».

Мужчынская каманда СКА выступіць у розыгрышы Кубка кубкаў.

*/Наш кар./.*







































## ХАТНІ ЭКРАН!

### 19 ліпеня, аўторак

*Беларускае тэлебачанне*

18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Эканамічная хваля.
19.40. Зямлі маёй паданні. "І пасеяў Бог зямлю..."
20.00. Кантакт.
20.05. Калыханка.
20.35. Панарама.
21.00. Урачыстае адкрыццё III Міжнароднага музычнага фестывалю "Славянскі базар-94".
21.55. Пяць хвілін на жарты.
22.00. Пад купалам Сусвету.
22.10. НІКа.
22.25. Надвор'е.
22.35. "Славянскі базар-94".

*Канал "Астанкіна"*

17.25. Дакументы і лёсы.
17.40. Знак пытання.
17.50, 20.35 Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа".
18.55. Тэма.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. З першых рук.
20.55. "Вялікі піралом".
23.10. Гала-канцэрт фестывалю "Белыя ночы Санкт-Пецярбурга".
0.25. Прэс-экспрэс.

*Канал "Расія"*

17.35. Свята кожны дзень.
17.45. "Хто вы, доктар Шаабан?"
18.10. L-клуб.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Мужчынская кампанія".
21.00. "Славянскі базар-94".
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. "Славянскі базар-94".

### 20 ліпеня, серада

*Беларускае тэлебачанне*

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. "Маналог з адступленнямі". Д/ф.
8.50. Пяць хвілін на жарты.
8.55. Надвор'е.
9.05. На чым трымаецца зямля?
9.25. Першы Міжнародны фестываль фальклору.
10.25. Ало! Ёсць пытанне. Госць студыі — біяэнергетык І.Фількевіч.
11.10. Інтэрв'ю з народным пісьменнікам Беларусі В.Быкавым.
11.40. Да Дня незалежнасці. Канцлер Леў Сапега.
15.05. "Голас дзяцінства".
16.00. Пра шахматы і шахматыстаў.
16.30. Відзьма-нявідзьма.
17.30. Навіны.
17.40. "Ганна Ахматава. Рэквіем". Д/ф.
18.10. Абласныя навіны (Гомель).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. "Карамболь". Ток-шоу з удзелам спевака М.Шуфуцінскага.
19.30. "Прышэлец". Д/ф.
19.45. Абрыс.
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Студыя "Формула".
23.00. Пад купалам Сусвету.
23.10. НІКа.
23.25. Надвор'е.
23.35. "Жанчына без забабонаў". 1-я серыя.

*Канал "Астанкіна"*

9.15. "Баяка муху не пакрыўдзіць" і інш.
8.25. "Дзікая ружа".
8.55. Клуб падарожнікаў.
9.45. Дзелавы веснік.
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
15.25. "Вайна гобатаў".
15.50. Дзённік дзіцячага кінафестывалю.
16.10. "Лятаючы дом".
16.40. Тэлерадыёкампанія "Мір".
17.25. Свет сёння.
17.40. Тэхнадром.
17.50, 20.35. Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа".
18.55. Кінапанарама.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Жараб'ёўка Лігі чэмпіёнаў па футболе.
21.10. Маналог.
21.20. "Шоу-бой".
23.15. Арт-кур'ер.
23.45. "Акно ўначы".
0.15. Прэс-экспрэс.

*Канал "Расія"*

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30. Ранішні канцэрт.
8.50. "Санта-Барбара".
9.40. Тэлегазета.
9.50. "К-2" прадстаўляе: "Ведай нашых".
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост". "Прызма".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія. "Далёкі Усход".
16.50. Казкі для бацькоў: "За парогам дома".
17.25. Я — лідэр.
17.50. Свята кожны дзень.
18.00. "Тайны немадрыдскага двара". І.Штэмлер.
18.50. "Пяць хвілін аб добрым жыцці".
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара".
20.25. Ніхто не забыты.
20.30. Шостае пачуццё.
21.05. На палітычным Алімпе.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.

## 8-й канал

### 19 июля, вторник

18.00 Многосерийный фильм для детей "Карусель".
18.20 Кубок "Порше".
18.35 Студия "Интекс". Новости.
18.45 Мультсериал "Вольтрон".
19.10 Телесериал "Лабиринт правосудия".
20.00 Студия "Рекорд" представляет мультипликационный фильм Уолта Диснея "Спящая красавица".
20.40 Художественный фильм из серии "Отец Мерфи".
21.30 Комедийное шоу "Скрытая камера".
21.50 Студия "Рекорд" представляет художественный фильм.

### 20 июля, среда

18.00 Многосерийный фильм для детей "Карусель".
18.25 Кубок "Порше".
18.35 СОЛТЕК. Новости.
18.45 Мультсериал "Вольтрон".
19.10 Полицейский сериал "Хилл Стрит Блюз".
20.00 Студия "Рекорд" представляет мультипликационный фильм Уолта Диснея.
20.30 Телесериал "Морена Клара", 44-я серия.
21.35 Студия "Рекорд" представляет художественный фильм.


**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмнай рэдакцыі —68-29-76,
намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81,
адказнага сакратара —68-26-48,
сакратарыята —68-26-48,
аддзелаў: Саветаў —68-26-38,
адукацыі і культуры —68-25-76,
сацыяльна-эканамічнага —68-25-43,
грамадска-палітычнага —68-25-42,
інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33,
пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83,
ілюстрацыі —68-25-03,68-26-48,
камерцыйнага — 68-25-86,
бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў:
у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88,
Салігорску — (8-210) 2-49-60.

*ЗАСНАВАЛЬНІК — Мінскі абласны Савет народных дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.*
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

**Намеснік галоўнага рэдактара М.В.КАРОЛЬ.**

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10. Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе "Мінскай праўды".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
*Тыраж 16600. Індэкс 63923. Зак.№75.*
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12